МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**№10** (138)
**кастрычнік 2013**

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### У СІБІРЫ – З БЕЛАРУСКІМ СМАКАМ!

"Смачна!" – кніга пад такой назвай выйшла ў Абласным Новасібірскім цэнтры беларускай культуры.

*Працяг на стар. 4*

### СНОП З ПРЫБАЙКАЛЛЯ

Пра тое, як беларусы Прыбайкалля адсвяткавалі Дажынкі.

*Працяг на стар. 6*

### "ПРОСТА ЗРАБІЦЕ БЕЛАРУСЬ БЕЛАРУСКАЙ"

Аматары Вікіпедыі зладзілі фотаэкспедыцыю "Следам беларусаў Падляшша".

*Працяг на стар. 7*

### БЕЛАРУСКІ РОВАРНЫ РЭЙД У МАЯМІ

З беларускім акцэнтам прайшоў у Маямі ў ЗША роварны рэйд з нагоды Хэлоўіна.

*Працяг на стар. 7*

ПАДЗЕІ

## ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ І ЛАТВІЙСКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ "СВІТАНАК" СВЯТКУЮЦЬ ЮБІЛЕІ

**Напрыканцы лістапада свае юбілеі святкуюць Згуртаванне беларусаў Канады (ЗБК) і Латвійскае таварыства беларускай культуры "Світанак", арганізацыі, важнасць якіх для беларускай дыяспары неаспрэчная. 27 лістапада 25 гадоў споўніцца "Світанку", а 28 лістапада ЗБК адзначыць сваё 65-годдзе.**



*Ірына Кузьміч*

**Латвійскае таварыства беларускай культуры "Світанак"** было створанае прадстаўнікамі дэмакратычна настроенай беларускай інтэлігенцыі 27 лістапада 1988 года. Беларуская супольнасць адной з першых нацменшасцяў Латвіі стварыла сваё нацыянальна-культурнае таварыства, якое таксама стала адным з заснавальнікаў Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч. Пры таварыстве ў 1989 годзе была створаная мастацкая студыя "Вясёлка", а ў 2002 годзе быў - ансамбль "Світанак". У 1990 годзе дзякуючы таварыству на хвалях Латвійскага радыё ўпершыню пачала гучаць беларуская мова ў грамадскай культурна-асветніцкай праграме "Світанак". У 1994 годзе быў адчынены першы клас дзяржаўнай Рыжскай беларускай школы, з 1998 г. школе нададзены статус Рыжскай Беларускай асноўнай школы.

Таварыства "Світанак" стварае беларускі культурны асяродак у Латвіі, спрыяе выданню мастацкай, перакладной і навуковай літаратуры, звязанай з Беларуссю, стала праводзіць культурныя мерапрыемствы, удзельнічае ў міжнацыянальных мерапрыемствах у Латвіі і годна прадстаўляе беларускую культуру ў гэтай краіне.

Старшыня таварыства "Світанак" Ірына Кузьміч расказала пра тое, як яна трапіла ў таварыства і што для яе значыць праца там: "У 2007 годзе я выйшла замуж і прыехала ў Рыгу. Тут мне не хапала беларускага асяродку, адчувалася туга па Радзіме, і таму я пачала шукаць беларусаў у Рызе. Я хутка знайшла сайт таварыства "Світанак" і пазваніла Таццяне Казак, якая тады была старшынёй таварыства. Яна запрасіла мяне завітаць на святкаванне Дня Волі. Я прыйшла, пазнаёмілася з сябрамі "Світанка", якія з часам сталі і маімі асабістымі сябрамі. Я пачала ўдзельнічаць у мерапрыемствах таварыства, ездзіла з ім у Венстпілс, у Ліепаі. Дзякуючы "Світанку", яго асяродку, я пачала часцей гаварыць на беларускай мове.

У 2012 годзе адбыўся чарговы сход таварыства, на якім мяне абралі новай старшынёй суполкі. Цяпер былая туга па Радзіме перарасла ў жаданне рабіць нешта дзеля захавання беларускага духу, беларускай ідэнтычнасці. Хочацца, каб нашыя мерапрыемствы прываблівалі моладзь, каб тая не заставалася абыякавая да роднага, таму мы стараемся рабіць цікавыя праграмы. А адна з маіх мараў - атрымаць для "Світанка" ўласнае памяшканне".

**Згуртаванне беларусаў Канады** было створанае 28 лістапада 1948 у Таронта 14-ю навапрыбылымі ў Канаду беларусамі. Ініцыятарам стварэння

➲

*Працяг. Пачатак на с.1*

арганізацыі выступіў Кастусь Акула. У траўні 1949 года адбыўся І З'езд ЗБК, на якім ён быў абраны старшынёй арганізацыі, а таксама былі заснаваныя аддзелы ў розных гарадах Канады.



*Валянціна Шаўчэнка*

На IV З'ездзе (1952 г.) ЗБК большасць сяброў ЗБК выказала падтрымку Радзе і Ураду БНР і БАПЦ, у той час як меншая частка выступіла за апалітычнасць арганізацыі і ў выніку пакінула з'езд і заснавала Беларускае нацыянальнае аб'яднанне (БНА), а пры ім царкву Еўфрасінні Полацкай. У тым жа годзе адбылася 1-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Гэтыя сустрэчы, арганізаваныя ЗБК і БАЗА, носяць рэгулярны характар.

У 2012 годзе ў Таронта прайшла 30-я такая сустрэча.

У 1993 годзе ЗБК як сябра ЗБС "Бацькаўшчына" пад кіраўніцтвам Міколы Ганька арганізавала групавую паездку ў Мінск на 1-ы З'езд беларусаў свету. Сябры ЗБК бралі ўдзел і ў наступных такіх з'ездах.

ЗБК адзначае ўсе значныя для беларусаў і Беларусі святы і ўгодкі, ладзіць культурныя мерапрыемствы, у тым ліку супольна з іншымі беларускімі арганізацыямі Паўночнай Амерыкі, напрыклад з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

Старшыня ЗБК - Валянціна Шаўчэнка.

## ВІНШУЕМ "СВІТАНАК" З 25-ГОДДЗЕМ!

Шаноўныя сябры! Шаноўныя паплечнікі!

Ад імя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуем вас з 25-гадовым юбілеем! Таварыства "Світанак" пачало дзейнічаць у далёкім 1988 годзе адным з першых на постсавецкай прасторы і было першай арганізацыяй нацыянальнай меншасці ў Латвіі!

Шмат усяго было зроблена, каб беларусы не забыліся на прыналежнасць да гістарычнай Радзімы, каб не расцерушыліся жыццёвай завірухай. І тым больш сёлетні юбілей - важная, значная з'ява беларускага жыцця ў замежжы!

Ваша таварыства з'яўляецца годным духоўным спадчыннікам Латвійскага культурна-асветніцкага таварыства "Бацькаўшчына", якое паўстала яшчэ ў 1921 годзе і спрыяла актыўнаму культурнаму беларускаму жыццю ў Латвіі.

За чвэрць стагоддзя дзейнасці "Світанак" стаў сапраўдным сімвалам любові і павагі беларусаў да сваёй культуры, традыцыі і гісторыі. Дзякуючы Таварыству, у Рызе запрацавала беларуская асноўная школа, якая актыўна дапамагае новаму пакаленню беларусаў памятаць, хто яны і адкуль. Таварыства "Світанак" спрыяла з'яўленню Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар", а таксама садзейнічала таму, каб беларуская мова загучала на хвалях Латвійскага радыё. Выставы і канцэрты, фестывалі, навуковыя даследаванні – усё гэта з года ў год ладзіць "Світанак", аб'ядноўваючы беларусаў і папулярызуючы нашую культуру сярод іншых народаў Латвіі.



Асобна трэба адзначыць, што Таварыства беларускай культуры "Світанак" стала ўзаемадзейнічае з беларускімі дыяспарамі іншых краін і, безумоўна, трымае моцную сувязь з Беларуссю.

Дарагія сябры! Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" дзякуе вам за дзейнасць, за гонар працаваць разам з вамі. Шчыра віншуем вас з юбілеем! Зычым моцы, натхнення і плёну ў вашай годнай і нялёгкай справе, а таксама здароўя і аптымізму! Няхай агеньчык беларушчыны ніколі не згасне ў вашых сэрцах!

*Управа МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"*

## ВІНШУЕМ ЗБК З 65-ГОДДЗЕМ!

Шаноўныя сябры Згуртавання беларусаў Канады!

Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуе вас з 65-годдзем ЗБК. Ваша арганізацыя – адзін з найстарэйшых беларускіх асяродкаў у свеце – ёсць сведчаннем неўміручасці беларускага духу, беларускай нацыянальнай ідэі. З дзейнасцю Згуртавання неразрыўна звязаныя імёны вядомых, слынных грамадскіх, культурных дзеячаў беларускай эміграцыі: Кастуся Акулы, Наталлі Арсенневай, Барыса Рагулі, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, Міколы Ганька, Аляксея Грыцука ды многіх інш.

Згуртаванне беларусаў Канады праз усю сваю дзейнасць дэманструе важнасць той місіі, якую нясе, а гэта – захаванне і развіццё беларускай прысутнасці, вернасць ідэалам БНР, актыўная культурна-асветная дзейнасць.

Сёння многія беларусы, што нарадзіліся ўжо ў Канадзе, дзякуючы менавіта Згуртаванню, памятаюць пра свае карані, дапамагаюць у працы асяродку. Не зважаючы на шматлікія складанасці і адсутнасць дапамогі з боку гістарычнай Радзімы, Згуртаванне беларусаў Канады рэгулярна ладзіць музычныя і літаратурныя сустрэчы, святкаванні Дня Волі і беларускіх традыцыйных святаў, праводзіць акцыі салідарнасці, а таксама выступае адным з арганізатараў рэгулярных з'ездаў беларусаў Паўночнай Амерыкі. Важна і тое, што сябры Згуртавання годна прадстаўляюць сваю Радзіму падчас самых розных мерапрыемстваў і святаў, якія праводзяцца ў Канадзе з удзелам многіх нацыянальнасцяў.

Шаноўныя сябры! Мы ведаем і цэнім вашу дзейнасць па захаванні і развіцці беларускага культурнага і палітычнага жыцця ў Канадзе. Шчыра зычым вам здароўя, моцы духу, веры і імпэту. Няхай вашая праца прыносіць плён і радасць!

Жыве Беларусь!

*Управа МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"*

# АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ З МІКАЛАЕМ АЎТУХОВІЧАМ У ВАРШАВЕ

У польскай сталіцы запатрабавалі вызвалення беларускіх палітычных зняволеных.

Акцыя салідарнасці з імі прайшла 23 кастрычніка ля ўваходу ў Варшаўскі ўніверсітэт.

Як паведаміў сайту charter97.org адзін з яе арганізатараў Вячаслаў Сіўчык, непасрэднай падставай для яе правядзення стаў ліст палітвязня Мікалая Аўтуховіча, у якім ён апісвае становішча вязняў беларускіх турмаў і кажа пра ціск з боку адміністрацыі на свой адрас.

"У гэтай сітуацыі мы абавязаны яго падтрымаць. Мікалай Аўтуховіч ужо пяць гадоў знаходзіцца ў жудасных умовах, але не спыніў сваёй барацьбы. Мы б хацелі, каб следам за гэтай акцыяй пайшлі новыя мерапрыемствы ў падтрымку як ваўкавыскага прадпрымальніка, так і астатніх дзесяці палітвязняў. У Беларусі цяпер цяжкая сітуацыя, ёсць усе перадумовы для таго, каб казаць пра ўзмацненне рэпрэсій ва ўмовах эканамічнай разрухі. Беларусы за мяжой маюць больш магчымасцяў для правядзення такіх акцый і павінны іх арганізоўваць, асабліва напярэдадні саміту ў Вільні", – сказаў ён.

Удзельнікі акцыі, якая працягвалася амаль гадзіну, трымалі ў руках нацыянальныя сцягі і партрэты палітвязняў. Мінакам, многія з якія падыходзілі да іх і цікавіліся сітуацыяй у Беларусі, раздавалі ўлёткі і прапаноўвалі напісаць лісты падтрымкі палітвязням у нашай краіне.

Нагадаем, Мікалай Аўтуховіч – былы прадпрымальнік з Ваўкавыску і ветэран вайны ў Афганістане – знаходзіцца за кратамі з 8 лютага 2009 года. Асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы нібыта за захоўванне некалькіх патронаў.

charter97.org

# БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ НАВЕДАЛІ "БЕЛАРУСКУЮ" ВІЛЬНЮ

Удзельнікі экскурсіі, зладжанай Аб'яднаннем АБ-БА, наведалі месцы, звязаныя з падзеямі і постацямі беларускай гісторыі. Правадніком падляшскіх беларусаў па Вільні была Людвіка Вітушка, якая распавяла між іншым пра вялікі віленскі некропаль.

Людвіка Вітушка: "Гэта могілкі Роса, яны былі заснаваныя ў 1881 годзе. Розныя версіі ёсць, што тут некалі было паганскае капішча, пазней першапачаткова хавалі людзей за межамі горада, перадусім тых, якія памерлі ад хваробы. Гэта каталіцкія могілкі, тут пахаваны шэраг беларускіх дзеячоў, і нямала людзей, якія звязаныя з беларускай гісторыяй".

Аб'яднанне на карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, такія экскурсіі арганізуе рэгулярна. Раней аб'ездзілі амаль усю Беларусь. Апошнім часам беластоцкія настаўнікі і бацькі наведалі Львоў, а сёння яны вяртаюцца з Літвы.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

# КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

11-13 кастрычніка Каўнас стаў "беларускім": у горадзе адбыўся Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі. Сёлета больш за 400 навукоўцаў у трэці раз сабраліся ва Універсітэце Вітаўта Вялікага і падзяліліся вынікамі сваёй акадэмічнай працы, якую аб'ядноўвае датычнасць да Беларусі.

Амаль усе вядомыя ў акадэмічных колах імёны прагучалі на Кангрэсе. Геаграфія падзеі ўключала ў сябе 25 краін: Польшча, Літва, Латвія, Украіна, Расія, ЗША, Ізраіль, Шатландыя… Сярод беларусаў, самай буйной даследчыцкай суполкі, былі прадстаўнікі як дзяржаўных, так і незалежных установаў. Арганізатары Кангрэса запрашалі і заахвочвалі да ўдзелу ў Кангрэсе ўсіх ахвотных незалежна ад месца працы і палітычных поглядаў: крытэрам для адбору з'яўлялася якасная навуковая публікацыя, якая задаволіць журы.

**Ад эканомікі да дударства**

Усе працы былі падзеленыя на 14 панэляў. Гэта менш за мінулы год, аднак арганізатары сцвярджаюць, што кожная з іх стала больш насычанай.

Тэматыка секцый ахапіла амаль усе аспекты жыцця: эканоміка, палітыка, выклікі грамадзянскай супольнасці і навуковага асяроддзя. Упершыню сабралася секцыя па абмеркаванні стану псіхалогіі і псіхааналізу ў Беларусі. Традыцыйна самымі шматлікімі засталіся гістарычныя і культуралагічныя секцыі, што ахапілі амаль усе перыяды беларускай гісторыі.

Цікавосткай ІІІ Кангрэса стала панэль, прысвечаная гісторыі дударскай традыцыі на Беларусі. Яе арганізаваў Яўген Барышнікаў, а падтрымалі яго калегі з Аўстрыі і Фінляндыі.

**Самагон з хлеба і гуталіну**

Падчас працы секцый прагучалі сотні дакладаў і адбыліся бурныя дыскусіі. Тэмы, закранутыя ўдзельнікамі, ахаплялі макра- і мікраэканамічныя пытанні, праблемы гендару і беларускай гістарыяграфіі, урбаністыкі, размеркаванне прыбытку ад гандлю энергарэсурсамі паміж беларускімі элітамі, суіцыдальныя схільнасці падлеткаў, стаўленне беларусаў да мігрантаў і інш. Аншлаг сабрала секцыя, прысвечаная еўразійскай інтэграцыі.

Сустракаліся і цікавосткі кшталту ўзгадкі рэцэпту прыгатавання самагону з хлеба і гуталіну, якая прагучала на секцыі, прысвечанай гісторыі паўсядзённага жыцця ў Беларусі.

**Назвалі найлепшых**

Новаўвядзеннем ІІІ Кангрэса стала заснаванне прэміі за найлепшую навуковую публікацыю. Прэмія ўручалася ў трох намінацыях: сацыяльныя навукі (палітычныя навукі, сацыялогія), гуманітарныя навукі (філасофія, філалогія, лінгвістыка, мастацтвазнаўства) і гісторыя. Арганізатары прымалі да конкурсу любую публікацыю памерам ад 20 тысячаў знакаў, таму ў шорт-ліст трапілі і манаграфіі, і калектыўныя працы, і артыкулы з перыядычных выданняў.

Журы кожнай намінацыі складалася з 9-10 чалавек. Сярод іх былі Валянцін Акудовіч, Андрэй Казакевіч, доктар Курт Вулхайзер з амерыканскага Універсітэта Брандэйз, Алег Дзярновіч, Алесь Смалянчук, Генадзь Сагановіч.

Прэмію за найлепшую навуковую публікацыю па гісторыі атрымаў Дзяніс Лісейчыкаў за манаграфію "Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839 гг.". Прэмію ўручаў Алесь Смалянчук.

Прэмію за найлепшую публікацыю па гуманітарных навуках атрымаў Ігар Запрудскі за зборнік артыкулаў "Па дарозе на Парнас: атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX ст.". Уручаў прэмію Курт Вулхайзер.

Найлепшай працай па сацыяльных

*Пачатак. Працяг на с.5*

# ДА 90-ГОДДЗЯ ВОЛЬГІ ГРЫЦУК



29 кастрычніка споўнілася 90 гадоў Вользе Грыцук, слыннай дзеячцы беларускай эміграцыі ў Канадзе, чый жыццёвы шлях выклікае гонар і пашану.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе шаноўную юбілярку з гэтым святам і зычыць выдатнага настрою, моцнага здароўя, радасці і цяпла!

Вольга Грыцук выдавала беларускую газету ў пасляваенны час у Аўстрыі разам з паэтам Алесем Салаўём і Уладзімерам Дудзіцкім, Міколам Ганько і сваім будучым мужам Алесем Грыцуком. Доўгія гады была актывісткай Згуртавання беларусаў Канады, шчырай верніцай Беларускай царквы.

У 2007 годзе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" мела гонар выдаць у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" кнігу Вольгі Грыцук "Мы стваралі сваю Беларусь".

Вольгу Грыцук вершамі віншуюць пісьменніца Вольга Іпатава і Сяргей Панізнік, якія ўжо шмат гадоў падтрымліваюць з юбіляркай цёплыя сяброўскія стасункі.

*Сяклі навальніцы, і град, і свінец*
*Шлях ейны, даўгі і няпросты...*
*Ды верыць чамусьці не хочацца мне,*
*Што Вользе Грыцук – дзевяноста.*
*Яе каралеўскай паставы струна,*
*Яе далікатнасці цнота –*
*Як непадступнага замка сцяна,*
*Як гімна заключная нота.*
*Ёй вершы паэты складалі, але*
*Другія паклікалі высі.*
*Ляжыць у зямлі канадыйскай Алесь –*
*А словы яго засталіся.*
*Усё, што было, не растала, як дым –*
*Каханне, радзіма святая...*
*...Канада, у яркім уборы тваім*
*Як стужка яна залатая.*

Вольга Іпатава
29 кастрычніка 2013

**І здзейсніцца Дзісна!**

*"Мая радзіма – Дзісеншчына... І я не*
*магу зразумець тых, хто лёгка забываецца*
*на сваю зямлю, сваю родную мову, на ўсё,*
*што робіць чалавека чалавекам".*
*Вольга Грыцук з дому Дуброўскіх*

*Жыла ў Дзісне з Дуброўскімі,*
*Ластоўскімі,*
*тут чула Жаўняровіча псалмы...*
*Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі*
*не змецена: тут Адзігітрыя і мы.*

*Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава*
*схіляюцца чупрыны курганоў.*
*І сёння ёй, Васільеўне, прыўкраснага*
*тут вельмі многа для паромаў-сноў.*

*Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі*
*муры, капліцу помніла дзяўчо...*
*...Пранесліся нягоды – ураганамі*
*і пад спадзеў падстаўлена плячо.*

*Каханнейка пякучае не стоміцца*
*збіраць сляды дзяцінства ля Дзвіны...*
*Ёй здзейсніцца Дзісна! Вярба памоліцца,*
*каб наша суайчынніца-патомніца*
*прыйшла на фэст пад родныя званы.*

Сяргей Панізнік
6 верасня 2013

НАВІНЫ

# У СІБІРЫ – З БЕЛАРУСКІМ СМАКАМ!




"Смачна!" – кніга пад такой назвай выйшла ў Абласным Новасібірскім цэнтры беларускай культуры. Прадстаўляе яе рэдактар і складальнік Людміла Бяляўская.

Гэта ўжо трэцяя кніга, выдадзеная Цэнтрам. Першы зборнік "Сібірру звязаныя лёсы" быў пра знакамітых беларусаў, якія зрабілі значны ўнёсак у гісторыю, навуку, культуру Сібіры. Пасля з'явілася яшчэ адна кніга "У Беларусі мае крыніцы". Гэта своеасаблівы радавод: хто і як апынуўся ў Сібіры, як адбыўся ў прафесіі, у асабістым і грамадскім жыцці, як у кожным жыве памяць аб роднай Беларусі.

Кніга "Смачна!" не прэтэндуе на навуковасць, яе аўтары, натуральна, не прафесійныя кухары. У Цэнтры беларускай культуры на святочныя канцэрты, сяброўскія вячоркі запрашаюцца і беларусы, і карэнныя сібіракі. Дзеляцца ўражаннямі аб паездках на гістарычную радзіму, успамінаюць памятныя з дзяцінства стравы, што елі за бацькоўскім сталом. А на сустрэчы ў Цэнтры кожная гаспадыня прыносіць да стала нешта сваё, хатняе. Каштуюць, ухваляюць, дзеляцца сакрэтамі і тонкасцямі прыгатавання. Таму вырашылі: трэба пашыраць пералік страваў, абагульніць вопыт нацыянальнай беларускай і сібірскай кухні.

І зусім ужо саспела ідэя стварэння зборніка на фестывалі "Свята бульбы", якое адбылося ў адным з раёнаў Новасібірскай вобласці, дзе пражывае нямала беларусаў. Рэцэпты менавіта бульбяных страваў склалі значную частку кнігі.

Форма выкладання сакрэтаў кухарскага майстэрства самая адвольная. Да прыкладу, адзіны мужчына сярод аўтараў Ян Каткоў перад сваімі рэцэптамі змясціў верш на роднай беларускай мове "Бацькоўская ежа". Хтосьці ўспамінае, як гатавалі мама ці бабуля. А наша суайчынніца Валянціна Вечаржова, якая даўно жыве ў Чэхіі, падзялілася рэцэптамі папулярных у чэхаў кнэдлікаў і калачоў. Хочацца думаць, што гэта таксама зацікавіць чытачоў. Усе тэксты праілюстраваныя фатаграфіямі.

На традыцыйнай прэзентацыі кнігі кожны аўтар прадставіў сваю любімую страву, пераможцы атрымалі прызы.

Заканчваецца зборнік словамі: "Смачна есці!" Гэтага ж хочацца пажадаць і маім землякамі – чытачам. Бо кулінарнае мастацтва – яшчэ адзін яркі бок беларускай нацыянальнай культуры.

*Паводле Людмілы Бяляўскай*

# КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

*Праця̌г. Пачатак на с.3*

і палітычных навуках стаў тэкст Ірыны Лашук і Аксаны Шэлест "Сімвалічнае і камунікатыўнае вымярэнне моўных практык беларускіх палякаў". Прэмію ўручаў Андрэй Казакевіч.

Вядоўцамі цырымоніі былі Ігар Бабкоў і Аляксей Ластоўскі. А дудар Яўген Барышнікаў і бард Андрэй Мельнікаў ажывілі вечар сваёй музыкай.

**Будзе што пачытаць**

Кангрэс адзначыўся і прэзентацыяй новых навуковых выданняў. Пільную ўвагу прыцягнула нядаўна апублікаваная ў Польшчы кніга Севярына Віславуха "Stosunki narodowościowe na terenie województw wschodnich" ("Міжэтнічныя адносіны на тэрыторыі ўсходніх правінцый") — грунтоўнае апісанне жыцця беларусаў на тэрыторыі Усходняй Польшчы.

Кіраўнік Студыюма Усходняй Еўропы Ян Маліцкі і гісторык Мікалай Іваноў, якія прэзентавалі кнігу, падкрэслілі значнасць гэтай кнігі для беларусаў. Яны адзначылі, што гэта кніга ўбачыла свет праз 73 гады ад моманту свайго напісання. "Гэта сапраўдны летапіс жыцця беларусаў у Польшчы ў 30-я гады ХХ стагоддзя, кніга, якую мусяць чытаць у Беларусі", — сказаў Іваноў.

Яраслаў Крывой прэзентаваў новы выпуск "Журнала беларускіх даследаванняў" — навуковага штогадовіка Англа-беларускага таварыства, які не выходзіў з 1988 года. Крывой заклікаў даследчыкаў актыўна дасылаць свае артыкулы і нагадаў, што "Журнал беларускіх даследаванняў" ёсць найстарэйшым рэцэнзаваным навуковым выданнем, прысвечаным даследаванням Беларусі. "Часопіс прытрымліваецца высокіх міжнародных стандартаў у галіне навуковых публікацый. Кожны артыкул праходзіць ананімнае рэцэнзаванне двума рэцэнзентамі. Перад публікацыяй стыль і змест артыкула ўдасканальваецца, а сам часопіс друкуецца на беларускай і англійскай мовах. Трапіць у часопіс цяжка, але аўтар публікацыі адразу набывае сабе імя ў міжнароднай акадэмічнай супольнасці", — сказаў Крывой.

**Пераклад Біблії і фестываль беларускага мастацтва**

У апошні дзень Кангрэса ўдзельнікі падвялі вынікі праведзенай працы і выказалі пажаданні. Не абышлося без хібаў. Відавочна, не хапала пляцовак для навуковых дыскусій. Часавы рэгламент для кожнага дакладчыка быў роўным 20 хвілінам. Яшчэ 10 хвілін адводзілася на пытанні. На жаль, гэтага было вельмі мала, і дэбаты навукоўцаў перарываліся мадэратарамі часам на самым цікавым.

Цікава, што некаторыя ўдзельнікі Кангрэса адмаўляліся ад камунікацыі з журналістамі. Часам нават для ўдакладнення дадзеных, нядаўна агучаных з трыбуны. Гэта выглядае паранаідальнай фобіяй, калі ўлічваць, што імёны навукоўцаў, тэмы дакладаў і назвы ўстаноў, якія яны прадстаўляюць, знаходзяцца ў вольным доступе ў інтэрнэце, а доступ у аўдыторыі Універсітэта Вітаўта Вялікага быў неабмежаваны.

Нягледзячы на нешматлікія негатыўныя моманты, большасць была задаволеная навуковым уік-эндам. Кожная секцыя падрыхтавала кароткую справаздачу па выніках Кангрэса.

Адам Мальдзіс у сваёй прамове да ўдзельнікаў Кангрэса нагадаў, што ў 2017 годзе споўніцца 500 гадоў беларускаму кнігадрукаванню, і заклікаў прысвяціць друкарству секцыю на адным з наступных кангрэсаў. Таксама ён заклікаў літоўцаў падумаць над магчымасцю аднаўлення Беларускага музея ў Вільні ў "старых мурах", бо ў Беларусі існуе цэнтр літоўскай культуры, але беларусы дагэтуль не маюць цэнтра беларускай культуры ў Літве.

Прадстаўнікі панэлі рэлігіязнаўства паведамілі, што гэтая дысцыпліна ўжо абсалютна выціснутая з сферы акадэмічных навук Беларусі і існуе выключна ў міжнароднай прасторы. А Кангрэс вельмі дапамагае развіваць беларускае рэлігіязнаўства і ўжо прынёс вынікі ў выглядзе плённага супрацоўніцтва і ўдзелу ў вялікіх міжнародных праектах.

Даследчыкі беларускай дыяспары абвесцілі, што падчас працы панэлі сабралася ініцыятыўная група па складанні даведніка па беларусістыцы ў Латвіі. Удзельнікі панэлі па праблемах перакладу Біблії на беларускую мову паведамілі, што стварылі неабходны спіс крытэраў да перакладу і цяпер знаходзяцца "на шляху да перакладу Біблії на беларускую".

Мастацтвазнаўцы актыўна заклікалі прыўнесці ў фестываль практычны складнік: дамаўляцца з канцэртнымі пляцоўкамі Каўнаса і ладзіць там паказы фільмаў, спектаклі, канцэрты. Калі гэта адбудзецца (нават праз некалькі гадоў), Кангрэс даследчыкаў Беларусі можа прыцягнуць увагу яшчэ і як фестываль беларускай культуры і мастацтва.

*Паводле "Нашай Нівы"*

# 10 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАЙ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЕ Ў БЕЛЬГІІ

Сёлета парафія ў Антверпене, якая паўстала ў 2002 годзе з ініцыятывы беларускіх эмігрантаў, святкуе сваё дзесяцігоддзе. Сярод ініцыятараў былі таксама беларусы старой эміграцыі, у прыватнасці, светлай памяці Рады БНР Янка Жучка і Зоя Смаршчок-Жэлязоўская. Першая Літургія была адпраўлена 1 чэрвеня 2003 года ў прысутнасці Апостальскага Візітара для беларусаў замежжа айца Аляксандра Надсана.

Як распавядае пробашч парафіі Ян Масейчык, вернікамі з'яўляюцца ў асноўным беларусы, якія з розных прычын апынуліся за межамі бацькаўшчыны на сталым побыце.

"У кожнай асобы – свой лёс, хтосьці з'ехаў праз палітычныя прычыны, хтосьці – праз эканамічныя, хтосьці працуе паводле кантракту. Важна зразумець, што ў любым выпадку людзі пакінулі сваю Айчыну не ад лепшай долі, і жыццё на чужыне для большасці з'яўляецца цяжкім выпрабаваннем, – кажа святар".

"Наша парафія становіцца астраўком роднага краю і дае магчымасць лягчэй інтэгравацца. Аднак наведваюць нас і ўкраінцы, і бельгійцы, і нават англаафрыканец. Для апошніх наша парафія адкрывае "terra incognita" – невядомую Беларусь. Але, канешне, на першым плане ў нас – сведчанне пра нашу ўсходнюю духоўнасць", – распавядае айцец Ян Масейчык.

На пытанне пра праблемы парафіі святар сціпла зазначыў, што непераадольных праблемаў няма. Царква не атрымоўвае ніякага фінансавання. Сваім коштам яны аплочваюць асвятленне і ацяпленне ў храме, збудавалі іканастас, забяспечылі парафію прыгожымі рызамі і каштоўнымі святымі сасудамі, шэрагам пісаных у старажытнабеларускім стылі ікон. Адзіны недахоп – гэта малая колькасць новых беларускіх кніг у царкоўнай бібліятэцы.

Беларуская Царква ў Бельгіі прадстаўлена парафіяй Святога Мучаніка Язафата Полацкага і Уваскрасення Хрыстовага і належыць да візантыйска-каталіцкай традыцыі.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе айца Яна Масейчыка і ўсіх парафіянаў з юбілеем парафіі. Ад усёй душы зычым вам веры, любові і духоўнай моцы!***

# Сноп з Прыбайкалля

Сёлета ўлетку, выступаючы на Шостым з'ездзе беларусаў свету, адзін з лідараў беларускай суполкі з Іркуцка Алег Рудакоў паспрабаваў адказаць на няпростае пытанне: як удалечыні ад Бацькаўшчыны абудзіць актыўнасць суродзічаў, далучыць да спраў дыяспары? І першым "сакрэтам", дакладней, апрабаваным сродкам, назваў абрады. У Прыбайкаллі ведаюць: пранікаючы ў іх сутнасць, спрабуючы зразумець глыбінны сэнс і адаптуючы абрады продкаў да новай рэальнасці, мы нібы распальваем вялікае вогнішча ў сцюдзёную пару. І яно потым саграве як душы актывістаў, так і дзясяткаў людзей, што прыцягваюцца да жыццядайнага агню.

У Прыбайкаллі святкавалі Дажынкі. народнай творчасці. У Прыбайкаллі ў вялікай Усць-Ардынскай Бурацкай акрузе побач жывуць розныя этнасы. Усеагульнымі і любімымі сталі там святы Сур-Харбан, Сабантуй, Масленіца ды іншыя. І беларускія Дажынкі збіраюць фальклорныя гурты акругі і вобласці. "Нам важна спасцігаць сутнасць абраду, аднаўляць яго з улікам этнаграфічных даследаванняў, — адзначыў Алег, аўтар сцэнара свята. — Дэталёва вывучаем даступныя матэрыялы, калі рэканструюем абрады".

Вітаючы гасцей і мясцовых жыхароў, мэр раёна нагадаў: воляй лёсу тысячы беларусаў і ўкраінцаў ехалі ў Сібір асвойваць новыя землі. Мясцовае насельніцтва, бураты, прымалі іх гасцінна. Сёння ў раёне жыве амаль сотня беларусаў, ствараецца іх этнасуполка. "Мы ўпершыню ладзім на аларскай зямлі вялікае і прыгожае свята, вельмі спадзяемся на супрацоўніцтва", — казала Алена Сіпакова, сібірачка ў трэцім пакаленні, якая сёлета ўзяла з рук Алега Рудакова эстафету кіраўніцтва Іркуцкай суполкай беларусаў.



Невялічкі прэс-рэліз пра падзею даслалі ў рэдакцыю: "У пасёлку Аляксандраўск Аларскага раёна Іркуцкай вобласці, заснаваным беларускімі перасяленцамі, пройдзе свята Дажынкі. Яно сімвалізуе заканчэнне жніва. Ладзяць свята Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Д. Чэрскага" ды Моладзевы клуб "Крывічы". Вас чакаюць спаборніцтвы дзяўчат падчас жніва сярпамі. Вы ўбачыце, як у даўніну вязалі снапы, як юнакі збівалі масла старажытным спосабам, пачуеце абрадавыя аўтэнтычныя песні, пабачыце карагоды. Арганізатары прапануюць прыняць удзел у майстар-класе па бытавых беларускіх танцах і многае іншае". Як заўсёды, пададзены ў канцы і мабільнік арганізатараў, на гэты раз самога спадара Алега. Дарэчы, важная дэталь: жывы кантакт з тымі, хто праяўляе цікавасць да імпрэзы, заўсёды на карысць справе.

З тэкстаў калег у рэгіянальнай прэсе, што асвятляла Дажынкі, бачна: беларусы ладзілі свята супольна з Усць-Ардынскім нацыянальным цэнтрам

Абрад Дажынкі ладзілі на ніве фермерскай гаспадаркі Мікалая Крываручкі. Дзеі суправаджалі спевамі гурт "Крывічы" і дзіцячы гурт "Званочкі" пад кіраўніцтвам Волі Галанавай, агульны ж рэй вёў Алег Рудакоў.

Цяпер і буратам вядома, што раней на Дажынкі сяляне-беларусы збіраліся ўсім паселішчам. Вяла жней вопытная жняя-пастацянка. У беларускага слова постаць (рускае фигура, стать, сан, осанка) ёсць і іншае, можа і першаснае значэнне. "ПастАць (пОстаць) — частка поля, занятая жнеямі ў час жніва" — са слоўніка Максіма Гарэцкага. Кожная пастацянка гнала сваю постаць. А старэйшая размяркоўвала жней так, каб найлепшым чынам рухалася праца. Важна было ўвайсці ў аптымальны рытм, каб ніхто нікога не затрымліваў, а калі трэба, то і падахвочваў. Было і суперніцтва, бо поспех залежаў ад кожнай жняі паасобку і ўсіх разам. І песні былі для таго адметныя, традыцыйныя, не для забаўкі — у падмогу. Важная частка абраду ўзнаўлялася на бяскрайняй ніве Аларскага раёна як конкурс жней. Па дзве (адна жне, другая вяжа снапы) гналі навыперадкі з песнямі постаці. Потым ушанавалі лепшых.

Нязжаты лапік, які пакідаюць на ўскрайку нівы, – гэта "барада". Каласкі зверху звязалі стужкай. З "барадой", якая, кажуць даследчыкі, увасабляе дух нівы, правялі рытуальныя дзеі, сэнс якіх: парадніцца з нівай духоўна, каб добрым быў ураджай надалей. Дзяўчаты-крывічанкі звілі вянок з пшаніцы, зрабілі галоўны Сноп-Гаспадар. Яго ўручылі гаспадару поля, мэру раёна Аляксандру Футорнаму, а дажыначны вянок — гаспадыні поля, Наталлі Крываручцы. У даўніну Сноп-Гаспадар неслі да сядзібы гаспадароў, яны сустракалі жней ля варот ці на ганку. Прымалі сноп, слухалі велічанні-віншаванні: жніво скончана! І пажаданні новых добрых ураджаяў, агульнага дабрабыту. Потым гаспадары запрашалі жней на Дажынкавае застолле.

Дажынкі закончыліся ў Аляксандраўску канцэртам.

*Паводле Івана Ждановіча, "Голас Радзімы"*
*Фота ІТБК*

ВІНШАВАННІ

## Віншаванне сябраў Вялікай Рады

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў лістападзе: **Генадзя Вінярскага, Анатоля Вярцінскага, Юрася Меляшкевіча, Мілану Міхалевіч** (Беларусь), **Вячаслава Логіна** (Канада). Зычым шаноўным імяніннікам шчасця і радасці, сонечнага настрою, моцнага здароўя і плёну ў працы!

25 лістапада юбілей у сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" **Антонія Бокуна** (Беларусь). Шчыра віншуем юбіляра і зычым святла на сэрцы, любові, цяпла і выдатнага здароўя!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



## АБВЕСТКА

**Паважаныя суайчыннікі!**

Наш храм пабудаваны ў імя Іаана Кармянскага, Святога зямлі беларускай.

Цяпер будуецца бабінец і званіца, і не хапае грошай для заканчэння будаўніцтва.

Царкоўны Савет просіць Вас аказаць нам фінансавую дапамогу і быць у ліку стваральнікаў храма. Бо царква моліцца: "Яшчэ молімся аб дабрашчасных і ставаральніках храма гэтага…"

Малітоўна ўдзячны за разуменне нашых праблем, жадаем вам здароўя і ва ўсім Божай дапамогі. Ушануй вас Хрыстос.

Наш разліковы рахунак: 3015201470012

Аддз. ААТ "Белаграпрамбанк"

г. Кобрын, код. 150501406

УНП 201015747

Прыход Свята-Іаана-Кармянскага, царква

вёска Глінянкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці.

*З павагай да Вас,*
*протаіерэй Міхаіл Канцэвіч*

Узор запаўнення плацежнага даручэння ў расійскіх рублях пры пераводзе сродкаў з Расіі.

Получатель: ОАО "Белагропромбанк", г. Минск.

Счёт кредит: 30111810800000000303

Банк получателя: ОАО "СБЕРБАНК РОССИИ", г. Москва, Россия.

БИК 044525225

ИНН 7707083893

Кор. счёт: 30101810400000000225

Назначение платежа:

Для зачисления за товар согласно договору №__ от "_"_____г. для ____(наименование клиента)___-

ОАО "Белагропромбанк" филиал в г. Кобрине МФО 150501406

Узор запаўнення плацежнага даручэння ў далярах ЗША пры пераводзе сродкаў праз карэспандэнцкія рахункі ААТ "Белаграпрамбанк" ў замежных банках.

CORRESPONDING BANK: Deutsche Bank Trust Company Americas New Your, USA

(банк-карэспандэнт)

SWIFT: BKTRUS33

BENEFICIARY BANK: inv. 04+098+826 USD

(банк атрымальніка)

SWIFT CODE: BAPBBY2X

OAO BELAGROPROMBANK MINSK, BELARUS.

KOBRIN BRANCH 406

BENEFICIARY: назва арганізацыі і нумар рахунку

(атрымальнік плацяжу)

BELAGROPROMBANK KOBRIN MFO 406, BELARUS

## "ПРОСТА ЗРАБІЦЕ БЕЛАРУСЬ БЕЛАРУСКАЙ"

Аматары Вікіпедыі зладзілі фотаэкспедыцыю "Следам беларусаў Падляшша". Яе вынікі папоўняць архівы інтэрнэт-энцыклапедыі.

"Мэтай нашай паездкі было ўзбагаціць фотаздымкамі раздзелы Вікіпедыі пра Падляшша, сфатаграфаваць месцы і людзей, звязаных з беларускай культурай і гісторыяй гэтага краю", – распавядае Томаш Бладынец, арганізатар і аўтар ідэі.

Фатаграфіі будуць выкладзеныя ў бясплатную інтэрнэт-бібліятэку Wikimedia Commons, доступ да іх будзе свабодны.

Таварыства "Вікімедыя Польшча" праплаціла ўдзельнікам экспедыцыі паліва ды ежу. Астатняе рабілі сваімі сіламі.

"Мы паехалі на маёй машыне. Начылі ў сяброў, Эвы і Дарэка Вошчынскіх з Белавежы. Дарэк – аўтар лагатыпу Дня беларускай Вікіпедыі ў Польшчы, які ён зрабіў за сімвалічнае піва. Прафесійны фотаапарат пазычыла ініцыятыва "Вольная Беларусь", а карты памяці да яе – сябры", кажа Бладынец.

Маршрут вандроўкі склаў Анатоль Міхнавец, лідар Беларускай Нацыянальнай Памяці. Іншыя ўдзельнікі – студэнты-каліноўцы і дзяўчынабеларуска, якая стала жыве ў Польшчы, – рабілі фота.

Польскае Падляшша – гэта шматкультурная зямля, якая ў сваёй гісторыі многа разоў мяняла гаспадароў. Тут пражывае багата беларусаў, ёсць нават мясцовы дыялект беларускай мовы. Але з кожным пакаленнем сувязь з беларускасцю губляецца:

"Мае вучні гавораць мне: навошта нам вывучаць беларускую мову, калі мы на ёй нават у Беларусі не дагаворымся?", распавядае дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску Андрэй Сцепанюк.

Аднойчы да яго прыехаў пасол Беларусі і запытаў, ці можа неяк гэтай школе дапамагчы. Дырэктар яму адказаў: "Проста зрабіце Беларусь беларускай". Пасол тады хуценька з'ехаў.

Фотаэкспедыцыя – чарговы праект вікіпедыйцаў. Да гэтага былі Дні беларускай Вікіпедыі ў Варшаве і Празе, дзе беларусаў вучылі пісаць артыкулы для вольнай энцыклапедыі.

Томаш Бладынец даўно цікавіцца Беларуссю, сябруе з беларусамі. Да таго ж ён вікіпедыст з 3-гадовым стажам, аўтар больш 1000 артыкулаў пра нашу краіну па-польску.

На яго думку, Вікіпедыя – найлепшы шлях пашыраць веды пра Беларусь. І такім чынам спрыяць захаванню і развіццю культуры і мовы нашай краіны.

*"Наша Ніва"*

## БЕЛАРУСКІ РОВАРНЫ РЭЙД У МАЯМІ

З беларускім акцэнтам прайшоў у Маямі ў ЗША роварны рэйд з нагоды Хэлоўіна. Беларускія ўдзельнікі прабегу ехалі з бел-чырвона-белымі сцягамі ды музыкай.

Беларуская грамада далучылася да крытычнай масы, якую кожную пятніцу месяца ладзяць амерыканцы, кажа карэспандэнтка Беларускага Радыё Рацыя з ЗША Паліна Прысмакова: "Трэба было прыцягнуць увагу. А ідэя палягала на тым, каб у час рэйду са сцягамі і пад беларускую музыку (мы былі з магнітафонамі) як мага больш распаўсюдзіць інфармацыі. Людзі пыталіся: "А што гэта за сцягі, чыя гэта музыка?" Вядома, што большасць людзей у Маямі з Лацінскай Амерыкі, для якіх Беларусь – дзівосная краіна, таму ім цікава, што гэта за краіна і дзе яна знаходзіцца. Шмат людзей спынялася каля нас".

Акцыяй амерыканскія беларусы выказалі таксама салідарнасць з пакаранымі за ўдзел у роварным прабегу стылягаў, які адбыўся ў Мінску ў жніўні.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## НА КУРГАНЕ КАСЦЮШКІ ЎЗНЯЛІ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ




Сябры "Беларускай Нацыянальнай Памяці" ўшанавалі памяць нацыянальнага героя Беларусі, узняўшы на кургане Касцюшкі ў Кракаве бел-чырвона-белы сцяг. Акцыя была прымеркавана да чарговых угодкаў яго смерці.

Нагадаем, Тадэвуш Касцюшка (1746—1817) — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года, удзельнік вайны за незалежнасць ЗША, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі.

*Паводле "Еўрарадыё"*

## НОРБЕРТ РАНДАЎ (1929-2013)



Славіст, перакладчык В.Быкава і М.Гарэцкага Норберт Рандаў сышоў з жыцця 1 кастрычніка.

У часы Германскай дэмакратычнай рэспублікі Рандаў правёў тры гады – з 1962 па 1965 – у зняволенні за "антыдзяржаўныя падбухторванні" і "дапамогу нелегальнай эміграцыі". Падчас ягонага зняволення сястра Рандаў, Гундула, ажанілася з беларусам, Уладзімірам Чапегам.

Праз знаёмства са шваграм Рандаў зацікавіўся беларускай літаратурай – большасць перакладаў яны рабілі разам. Сярод іншага Рандаў перакладаў творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага і Васіля Быкава, з якім быў асабіста знаёмы. Сярод знаёмых Рандаў былі і Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў.

У 2003 годзе Рандаў дапамог адшукаць у нямецкім горадзе Гёрліц асобнік Бібліі Францыска Скарыны і пазней выступіў з навуковым дакладам з гэтай нагоды.

Яго пераклад аповесці Максіма Гарэцкага "Дзве душы", на які сышло шмат гадоў працы, дагэтуль не выдадзены. Нямецкі журналіст Інга Пэтц, які прачытаў гэты пераклад, кажа, што Рандаў называў "Дзве душы" ключавым творам беларускай літаратуры.

Пэтц кажа, што яму на ўсё жыццё запомніліся словы Рандаў: "Гэта скандал, што мы на Захадзе нагэтулькі сляпыя ў дачыненні да беларускай літаратуры, якая ёсць неад'емнай часткай еўрапейскай культурнай гісторыі".

*"Радыё Свабода"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні ўсім, хто ведаў і шанаваў Норберта Рандаў. Светлая памяць гэтаму слаўнаму чалавеку!***

## ЧЭШКА, ЯКАЯ ВЕЛЬМІ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ, ПЕРАКЛАЛА КНІГУ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА

У Празе, як у калысцы, выгадавалася безліч талентаў. Аднак, апроч інтарэсу да ўласнага, у чэхаў раз-пораз успыхвае інтарэс да Беларусі ды нашай культуры. Гэтую жанчыну завуць Светлана Вранава (Světlana Vránová). Толькі што яна скончыла пераклад на чэшскую мову кнігі Паўла Севярынца "Люблю Беларусь". Сама Светлана кажа, што акрамя Беларусі закаханая яна і ў нашую мову, і ў спецыфічную мову Севярынца: "Мне вельмі падабаецца, як Павал гуляе са словамі, мне гэта надзвычай прыемна, я гэтаксама люблю гуляць з чэшскаю мовай. Ён прыдумляе словы, і я, каб змагчы гэта перакласці, таксама мушу выдумляць новыя словы ў чэшскай мове".

Светлана ўласным прыкладам паказвае, што дзеля таго, каб займацца перакладам і літаратураю, дастаткова вялікай ахвоты. Мову перакладчыца вывучыла самастойна. Цяпер на рахунку Вранавай – два пераклады. Апроч кнігі Севярынца, яна пераклала "Залаты век Беларусі" Станіслава Акінчыца.

"Мы гэтую кнігу выдалі, бо сёлета гадавіна прышэсця Яроніма Пражскага ў Беларусь, Вялікае Княства Літоўскае. Гэта быў паплечнік нашага Яна Гуса, ён прынёс у ВКЛ ідэі рэфармацыі", – тлумачыць Вранава.

Пераклад пабачыў свет дзякуючы ахвяраванням беларусаў Чэхіі ды чэшскіх хрысціянаў.

*belsat.eu*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІСТАПАД 2013 ГОДА

2 лістапада – Дзяды, дзень памінання памерлых.

3 лістапада – 30 гадоў таму, у 1983-м, памёр Антон Мартас (у манастве Апанас), архіепіскап, рэлігійны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аргенціне, Аўстраліі і ЗША, гісторык праваслаўнай царквы. Нарадзіўся ў в. Завітая, цяпер Нясвіжскі р-н (1904 г.).

7 лістапада – 65 гадоў таму ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія, Нямеччына) у аўтакатастрофе загінуў Хведар Ільяшэвіч (1910-1948), паэт, празаік, гісторык, грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Пахаваны ў г. Галендорф (Ніжняя Саксонія, Нямеччына).

8 лістапада – 130 гадоў таму нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі (маёнт. Калеснікі, цяпер Глыбоцкі р-н; 1883-1938), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, мовазнавец, літаратуразнавец, публіцыст, этнограф.

8 лістапада – 10 гадоў таму памерла Вольга Бурнос (1933-2003), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахавана на праваслаўнай частцы могілкаў Centennial Park у Адэлаідзе (Аўстралія).

14 лістапада – 35 гадоў таму ў Лос-Анджэлесе (ЗША) памёр Уладзімір Клішэвіч (1914-1978), паэт, публіцыст, вязень савецкіх турмаў, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

15 лістапада – 120 гадоў таму нарадзіўся Францішак Чарняўскі (в. Чухны, цяпер Смаргонскі р-н; 1893-1979), каталіцкі святар, рэлігійна-асветніцкі публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Францыі, Бельгіі і ЗША.

16 лістапада – Дзень Маці Божай Вострабрамскай — апякункі Беларусі.

17 лістапада – 120 гадоў таму нарадзіўся Кастусь Езавітаў (г. Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія; 1893-1946), дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, публіцыст, перакладчык, педагог, гісторык.

20 лістапада - 25 гадоў таму памёр Гаўрыла Гарэцкі (1900-1988), геолаг, географ, эканаміст, дэмограф, дзеяч нацыянальна-культурнага руху.

25 лістапада – 10 гадоў таму памерла Людміла Махнюк (дзяв. Каліноўская; 1932-2003), дзеяч культурнага руху ў эміграцыі ў ЗША. Пахавана на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША).

27 лістапада – 25 гадоў таму, у 1988-м, у Рызе (Латвія) створана Таварыства беларускай культуры "Світанак".

28 лістапада – 65 гадоў таму, у 1948-м, у Таронта (Канада) створана Згуртаванне беларусаў Канады.

**Беларусы ў свеце**
№10(138), кастрычнік 2013

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27